2 Святара Івана Спасюка затрымала міліцыя
5 "Момант ісціны" зноў адкладваецца
6 Фальсификации при голосовании



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.





№34 (167). 17 — 23 жніўня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 90 руб.

## "ТРАПІЧНЫ ДОЖДЖ" НА КАРЛА МАРКСА, 40



**Днямі ў рэдакцыю "ГС" патэлефанаваў жыхар г.Слоніма, які паведаміў, што яго кватэру залівае гарачай вадой. Прычым, ні аварыйная водаканала, ні ЖЭС нічым не могуць дапамагчы...**

"Толькі рамонт зрабілі...", — скардзіўся гаспадар кватэры, сустрэўшы з парасонам карэспандэнтаў "ГС". Усе пакоі былі затопленыя, са столі ручайкамі сцякала гарачая вада, у кватэры было як у парылцы.

Жыхары кватэры, якія жывуць на верхнім паверсе і заліваюць вадой людзей, не адчынялі дзверы, нягледзячы на шматразовыя ўгаворы сваіх суседзяў. "Відаць, зноў п'яныя, іх дзеці ўсю ноч плакалі", — казалі людзі. Дзверы ўзломвалі з міліцыяй. Калі кватэру адчынілі, усе ўбачылі п'яную жанчыну з двума малымі дзецьмі і мужчыну. "Гэта ўсё дзеці. Гэта яны вінаватыя", — крычала гаспадыня. Але ніхто яе не слухаў.

Здаецца, што цяпер ужо нікога не здзівіш такімі здарэннямі. Але трэба ж неяк паважаць адзін аднаго, каб жыць па-людску з суседзямі.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ, Віталь ГІЛЬ (фота)**



НАВІНЫ

### Задолженность по зарплате остается

**В Беларуси по-прежнему остается высокой задолженность по заработной плате в агропромышленном комплексе.**

По данным Министерства сельского хозяйства и продовольствия, несмотря на то, что за последние 10 дней задолженность по зарплате работникам колхозов и совхозов удалось погасить более чем на 30 процентов, сумма долга на 10 августа составила 13,9 миллиарда рублей. Основной объем задолженности приходится на апрель, май и июнь, а в ряде хозяйств Могилевской области с работниками не рассчитались еще за март.

**Ирина ЛЕВШИНА**

### Фальклорам зацікавіліся

**Навукоўцы і даследчыкі з Мінска зацікавіліся народнымі песнямі, прымаўкамі, паданнямі, што бытуюць на Дзятлаўскай зямлі.**

Цэлая этнаграфічная экспедыцыя прыедзе іх сабіраць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!**

Працягваецца падпіска на «Газету Слонімскую» на IV квартал 2000 года.



НАШ ПАДПІСНЫ індэкс — 64042

## СЛЕДСТВИЕ СКОРО СКАЖЕТ СВОЕ СЛОВО

**Транспортный прокурор Беларуси Николай Королюк в беседе с корреспондентом БелаПАН сообщил, что его встреча с генеральным директором ОРТ Константином Эрнстом, состоявшаяся на минувшей неделе, была продуктивной.**

"Мы друг друга поняли, и он готов оказывать всяческое содействие органам предварительного следствия", — сказал Королюк, опровергнув сведения о том, что руководство ОРТ, якобы, отказывалось сотрудничать со следствием и скрывало некоторые факты.

Недавно сотрудники следственной группы навестили супругу Дмитрия Завадского и просили предоставить им, по возможности, локон волос супруга, сведения о группе его крови, что крайне обеспокоило Светлану Завадскую и навело ее на предположения о худшем развитии событий с ее мужем. Прокурор заявил, что ничего чрезвычайного не произошло, выполняются обычные следственные действия, изучается личность Завадского. По словам руководителя транспортной прокуратуры, он не может сделать выводы, которые бы настораживали и уверен в том, что Завадский будет найден. "Я считаю, что те версии, которые мы прорабатываем, вскоре приведут к положительному результату, — сказал Королюк. — Выполнен большой объем работы, и не только в Беларуси, но и в других странах".



**З моманту знікнення журналіста Дзмітрыя Завадскага мінуў: 41 дзень**

Однако прокурор наотрез отказался комментировать эти версии: "Я не собираюсь информировать противостоящую следствию сторону. Это не в наших интересах". Николай Королюк сказал также, что на следственную группу никакого давления не оказывается. Прокуратура, МВД и КГБ работают в тесном контакте и взаимопонимании, сказал он.

Руководитель транспортной прокуратуры не стал комментировать сведений о том, что в день исчезновения Дмитрия Завадского — 7 июля — жильцы его дома видели подозрительных людей, наблюдавших за его квартирой и машиной. Жильцов дома допросили, и с помощью специалистов был составлен фоторобот одного из этих лиц. Однако фоторобот не был опубликован. Прокурор отклонил предложение журналиста поместить имеющийся портрет в средствах массовой информации, сказав буквально следующее: "Нам не надо этого. Была бы необходимость, мы бы вам дали... В ближайшее время вы все узнаете. Мы соберем журналистов и все расскажем".

**Геннадий БАРБАРИЧ**

### Слонімскія ручнікі для беларускіх алімпійцаў

**Слонімская фабрыка "Тэкстыльшчык" на гэтым тыдні адправіць у Мінск 680 ручнікоў для беларускіх спартсменаў, якія ў верасні выступяць на XXVII Алімпійскіх гульнях у Сіднеі.**

Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміла галоўны інжынер фабрыкі Ірына Худзьё. Прадпрыемства вырабіла для алімпійцаў 340 вялікіх лазнявых ручнікоў і 340 сярэдніх. На ручніках адлюстравана алімпійская сімволіка і слова "Belarus". Так што, нашы спартсмены ў Аўстраліі будуць выцірацца слонімскімі ручнікамі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



*Начальнік тэхаддзела фабрыкі Ніна Жыгар рыхтуе ручнікі для адпраўкі пастаўшчыку*

# СЛОНІМЕЦ ІВАН СПАСЮК — СВЯТАР І ДЫСІДЭНТ

**Ужо год у пасёлку Пагранічны Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці працягваецца канфлікт паміж уладамі і мясцовымі жыхарамі, прыхажанамі Беларускай Народнай Праваслаўнай царквы.**

Гэты прыход, які не падпарадкоўваецца Рускай Праваслаўнай царкве, узначальвае святар Іван Спасюк, былы жыхар Слоніма. Вернікам з Пагранічнага ўлады адмаўляюць у рэгістрацыі іх прыхода і ўсялякім чынам перашкаджаюць іх дзейнасці. Асабліва абвастрылася сітуацыя ў апошнія месяцы.

Набажэнствы прыхода Івана Спасюка адбываюцца ў вайсковай палатцы, пастаўленай у прыватным агародзе. Аднак вельмі часта набажэнствы гэтыя наведваюць не толькі прыхажане, але і міліцыянеры з прадстаўнікамі ўлады. Задача апошніх — псіхалагічна паўздзейнічаць на вернікаў, каб яны адмовіліся ад падтрымкі свайго апальнага святара.



*Міліцыянер адзявае на Івана Спасюка наручнікі*

Напрыканцы ліпеня здарылася ўвогуле дэтэктыўная гісторыя. Трое міліцыянераў уварваліся ў гэтую часовую царкву і адзелі на Івана Спасюка наручнікі. Яны заявілі, што служба праводзіцца незаконна, што ёсць рашэнне Бераставіцкага суда аб прымусовай дастаўцы Спасюка ў суд. Вернікі кінуліся ратаваць бацюшку і адбілі яго ў міліцыі.

Святар разам з сям'ёй дабраўся да Гродна, дзе шукаў дапамогі ў польскім консульстве. Там яму ў гэтым адмовілі. Аднак дапамаглі гродзенскія журналісты, якія садзейнічалі Спасюку ў правядзенні прэс-канферэнцыі ў рэдакцыі "Биржи Информации". Ужо на наступны дзень святар быў затрыманы. Суд Бераставіцкага раёна, які працягваўся толькі тры мінуты, асудзіў яго на пяць сутак арышту за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі...

Але, нягледзячы на ўсе перашкоды, Іван Спасюк Беларусь і сваіх прыхажан пакідаць не збіраецца. У Бераставіцкім ізалятары часовага ўтрымання ўсе пяць сутак арышту ён трымаў галадоўку.

**Алег ТАЧОНЫ**

ЗДАРЭННІ

## Дарослыя аб'ядалі дзяцей

**Шэраг сур'ёзных парушэнняў у арганізацыі харчавання школьнікаў у дзіцячых аздараўленчых лагерах Гродзенскага, Лідскага і Шчучынскага раёнаў выяўлены Камітэтам дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці.**

Асноўныя з іх — парушэнне рэцэптуры прыгатавання ежы, недастатковае ўкладанне прадуктаў пры прыгатаванні страваў, выкарыстанне пратэрмінаваных прадуктаў, фармальны кантроль медработнікаў за арганізацыяй харчавання дзяцей і іншыя.

Напрыклад, у аздараўленчым лагеры "Касмадром" Шчучынскага раёна за два дні дзецям было недададзена прадуктаў на 15,3 тысячы рублёў.

Па выніках праверкі 26 чалавек прыцягнуты да адміністрацыйнай і 8 - да дысцыплінарнай адказнасці.

**Ася КУНІЦКАЯ**

## Задыхнуўся ад дыму

**У прыватным гаражы на Чырванаармейскай вуліцы задыхнуўся ад дыму 16-гадовы Аляксей Ш.**

Ён вучыўся ў 11 класе СШ №1 Слоніма.

## Крадуць веласіпеды і кашалькі

**У апошні час у Слоніме пачасціліся крадзяжы веласіпедаў і кашалькоў.**

Нядаўна каля вінзавода жанчына паставіла свой веласіпед. Не паспела яна агледзецца, як злодзей яго ўкраў. Але міліцыя хутка ўгоншчыка затрымала.

Крадуць таксама двуколкі, якія людзі ставяць каля інтэрнатаў і магазінаў, а кашалькі часцей за ўсё знікаюць з сумак на рынку.

## Згарэлі прыбудовы

**На вуліцы Танкістаў у Слоніме загарэліся прыбудовы.**

Агонь знішчыў толькі дзве, астатнія пажарнікі паспелі патушыць. Прычына пажару — высвятляецца.

## Атруцілася таблеткамі

**У вёсцы Навасёлкі Слонімскага раёна бацька пасварыўся з дачкою Святланай Г.**

Дзяўчына ад крыўды выпіла чатыры таблеткі, тэрмін якіх даўно сышоў.

Праз некалькі гадзін яе даставілі ў Слонімскую бальніцу, а пасля ў адну з клінік Гродна. У бацькі ад гэтага не вытрымалі нервы: ён выпіў тых жа самых таблетак, але дзесяць. Выратаваць яго жыццё дактары ўжо не змаглі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## Быць вуліцы Генюш у Зэльве

**Творчая інтэлігенцыя Беларусі і жыхары Зэльвы звярнуліся з пісьмовым зваротам да старшыні Зэльвенскага райвыканкама.**

У ім яны просяць перайменаваць Савецкую вуліцу на вуліцу Ларысы Генюш, дзе паэтка пражывала да 1983 года. Што ж, пачакаем рашэння райвыканкама.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Сустрэча з апазіцыяй

**Днямі Слонім наведаў намеснік старшыні БНФ "Адраджэньне" Вячаслаў Сіўчык і кіраўнік Гродзенскай абласной арганізацыі БНФ Мікалай Баўсюк.**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Выступае Вячаслаў Сіўчык*

Сустрэча адбылася ў малой зале РДК у суботу, 12 жніўня. Яе адкрыў і вёў кіраўнік Слонімскай арганізацыі БНФ Іван Бядко. На сустрэчы выступілі таксама Міхась Варанец ад мясцовай суполкі БСДП (Народная Грамада) і Мікалай Ракевіч ад "фронтаўцаў".

Найбольш цікавым і змястоўным было выступленне Вячаслава Сіўчыка. Ён расказаў пра сённяшнюю палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі і Расіі, спыніўся на будучых выбарах у беларускі парламент, якія сёння не прызнае міжнародная супольнасць, а таксама адказаў на пытанні прысутных.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Профсоюзы остались без денег

**Государственный комитет финансовых расследований распорядился приостановить операции по расчетному счету управления делами Федерации профсоюзов Белорусской (ФПБ). В результате часть работников Федерации — в основном обслуживающий персонал — не могут получить заработную плату за июль.**

Как сообщили БелаПАН в руководстве ФПБ, операции по счету были приостановлены с середины июля. Официальную причину этого руководству Федерации так и не объяснили. ФПБ рассматривает происшедшее как очередное вмешательство государства — на этот раз финансовое — в деятельность профсоюзов.

**Ирина ЛЕВШИНА**

## Книги станут дешевле

**Совет Министров Беларуси принял постановление, которым утвердил порядок и критерии отнесения книжной продукции к категории, связанной с образованием, наукой и культурой, а также перечень полиграфических материалов, оборудования, комплектующих и запасных частей к нему, которые освобождаются от налога на добавленную стоимость.**

Согласно постановлению, к книжной продукции, связанной с образованием, наукой и культурой, отнесены соответствующие книги, а также брошюры, листовки, словари, энциклопедии и их серийные выпуски, атласы и прочие книги с географическими картами или схемами, нотные издания. Коммерческие организации, осуществляющие издание и производство такой книжной продукции, должны указывать в выпускных данных издания номер кода Общегосударственного классификатора, который подтверждает налоговую льготу.

Заместитель председателя Государственного комитета по печати Станислав Ничипорович отметил, что с реализацией постановления и вышеназванного указа книга станет дешевле и доступнее для более широкого круга населения. По словам Ничипоровича, очень важным моментом является освобождение книжной продукции, связанной с образованием, наукой и культурой, от НДС и налога на прибыль, а предприятий книжной торговли — от обязательной уплаты рентного сбора при осуществлении бартерных операций.

Кроме того, как считает Ничипорович, заметно оживит ситуацию на книжном рынке освобождение книжной торговли от арендной платы за пользование помещениями коммунальной собственности. По его словам, все эти меры, вместе взятые, сократят стоимость книги примерно на 15%.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## Смертность на предприятиях

**В январе-июле этого года на предприятиях Беларуси в результате несчастных случаев погибли 145 человек — на 20 человек меньше, чем за аналогичный период прошлого года.**

Наименьший показатель смертности на производстве — в Гродненской области, где погибли 12 человек. Тяжелые травмы на производстве за семь месяцев года получили 379 человек, или на 18 человек меньше, чем за аналогичный период прошлого года.

**Наталья КУЛАГИНА**

НАВІНЫ

## Задолженность

**Колхозы и совхозы Гродненской области не рассчитываются за получение нефтепродуктов.**

Только задолженность по Слонимскому району составляет 113 миллионов рублей, а по Дятловскому — 83 миллиона.

**Михаил ОКУЛКО**

## "Белтэлекам" пашырае паслугі

**Міністэрства сувязі РБ уводзіць новы від паслуг для насельніцтва пад назваю "Будзільнік".**

Гэта значыць, што тэлефаністкі, па дамоўленасці з абанентам, павінны будуць пабудзіць чалавека ў прызначаны ім час. Каштаваць гэта паслуга будзе 13 рублёў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39 .........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісана да друку 16 жніўня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 9050 экз. Заказ № 2681
«Газета Слонімская» Спасылка на "ГС" абавязковая
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Газета Слонімская
17 — 23 жніўня, 2000г. № 34 (167)

# ВАНДРОЎКА ПА СЛОНІМШЧЫНЕ З УЛАДЗІМІРАМ ЯГОЎДЗІКАМ

На днях завітаў да мяне з Мінска на сваім "Фольксвагене" пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік.

– Чаго сядзіш, сумуеш? Давай паедзем у вандроўку па нашай Слонімшчыне,– прапанаваў зямляк.

Мы селі ў машыну і паціху паехалі ў бок Васілевіч.

– Як творчыя справы, Валодзя?– запытаўся ў яго.

– Справы ідуць някепска. Тры запар кніжкі выйшлі з друку. Апошняя называецца "Царэўна ў падземным царстве". Сюды я ўключыў казкі, сабраныя рускім вучоным-фалькларыстам Аляксандрам Афанасьевым. Яны былі запісаныя ім на Гродзеншчыне і Магілёўшчыне,– сказаў пісьменнік.

– А як "пажываюць" твае часопісы? Ты ж рэдагуеш "Бярозку" і выдаеш свой уласны часопіс "Лесавік"?

– Неяк трымаемся. Выйшаў нядаўна чацвёрты нумар "Лесавіка". Ён прысвечаны чорнаму зайцу. Так-так, не здзіўляйся,– пачаў казаць зямляк.– Вадзіліся некалі на Беларусі чорныя зайцы. Яны яшчэ траплялiся ў пачатку XX стагоддзя. Пасля іх не стала, як не стала ў нашых лясах і пушчах тураў, балотнай рысі, дзікіх коней тарпанаў і іншых звяроў.



*Карусь Каганец*

Размаўляючы, мы неяк хутка праехалі Васілевічы, пасля Парэчча. Павярнулі да Шчары, дзе здалёк віднелася царква. Якое цудоўнае там месца! Некалі гэта была зямля нашага славутага земляка, беларускага сацыял-утапіста Міхала Валовіча. Ён у 1833 годзе ўдзельнічаў у Заліўскай экспедыцыі з мэтай узняць паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве супраць расійскага царызму. Па загаду Мураўёва-вешальніка Вало-віча арыштавалі і закатавалі ў Гродне. Удзячныя землякі каля Парэцкай царквы паставілі яму помнік, які бальшавікі знішчылі дзесьці ў 1940 годзе.

У заняпад прыйшла і права-слаўная цэркаўка. Мы ўбачылі вакол яе і ў сярэдзіне рыштаванні. Быў час, калі хацелі яе рэстаўрыраваць. Але праца даўно спынілася і рыштаванні пачарнелі ад часу. А храм прыходзіць у заняпад. Шкада. Знішчаецца не толькі памяць пра Валовіча, але і наша гісторыя. Толькі



*Уладзімір Ягоўдзік*

Шчара не спыняе свой бег. Праўда, і яна зусім не тая, якая была, калі жыў Міхал Валовіч.

З Парэчча мы паехалі ў вёску Ніз. Пры дарозе віднеліся вясковыя могілкі. Спынілі машыну. Пайшлі далей пяшком. На могілках прыцягнуў увагу памятны знак. У гады Вялікай Айчыннай вайны фышысцкія карнікі расстралялі 296 жыхароў вёскі Ніз, а мужчын забралі ў Германію. Пасля і вёску спалілі. Ахвярам вайны і пастаўлены помнік на нізоўскіх могілках.

З Нізоў па гравейцы мы даехалі да Едначоў. Каля гэтай вёскі працякаюць дзве рачулкі Язвіца і Бяроза.

– Вельмі прыгожа гэтыя рэчкі апісаў Баброўскі ў сваёй кнізе "Статистическое описание Гродненской губернии 1863 года",– гаворыць Уладзімір Ягоўдзік.– Я маю ксеракопію гэтай кнігі. Вельмі цікавая і каштоўная кніга. Там шмат напісана пра нашу Слонімшчыну.

Мы спыніліся каля хаты Лапко Івана Антонавіча –дзядзькі Уладзіміра. Даўно памерла яго жонка, цяпер жыве з сынам. Хоць і засталіся яны без гаспадыні, але па-ранейшаму трымаюць курэй, парсючка, садзяць агарод. Зусім нядаўна Іван Антонавіч перажыў цяжкае гора – у аўтамабільнай катастрофе загінуў яго другі сын.

Мы прыселі на лаўку каля хаты, і спадар Лапко пачаў апавядаць пра свой нялёгкі лёс. З яго слоў мы даведаліся, што ў вайну немцы разам з іншымі вяскоўцамі вялі яго на расстрэл. Але Іван уцёк у лес, гэта і выратавала яго ад смерці. Праўда, пазней быў вывезены ў Германію, дзе працаваў у баўэра. І толькі пасля вайны вярнуўся ў Едначы.

Паспрабаваўшы "белага наліву" з маладзенькай яблыні, мы развіталіся з Іванам Антонавічам і паехалі ў Кастровічы – родную вёску Уладзіміра Ягоўдзіка. Ён тут даўно ўжо не жыве, але памятае кожны дом, завулак, агарод. Тут прайшло яго маленства. "А вось гэта мая хата, я тут нарадзіўся і жыў",– уздыхнуў мой сябра, паказваючы на адну з вясковых хат.

– А цяпер хто там жыве?– пытаюся.

– Чужыя людзі – дачнікі. Я нават і не ведаю хто,– адказаў Валодзя.

З вясковай вуліцы мы накіраваліся на кастровіцкія могілкі да магіл маці, дзядулі і бабулі Уладзіміра Ягоўдзіка. Побач з магіламі растуць два дубкі і бярозка. Іх некалі пасадзіў сам Валодзя.

Мы паціху ехалі па Кастровічах, а Валодзя ў машыне гаварыў пра сваю вёску і расказваў, хто дзе жыве. Вёска, сапраўды, багатая на таленты. Адсюль пачынаецца знакаміты род Кастравіцкіх. З гэтага роду выйшаў беларускі паэт Карусь Каганец і класік французскай паэзіі Гіём Апалінэр (Кастравіцкі). Дарэчы, Гіёму Апалінэру ў канцы жніўня Францыя адзначыць 120-годдзе.



*Так выглядае сёння Парэцкая царква*

Мой спадарожнік Уладзімір Ягоўдзік таксама даволі вядомая асоба ў літаратурных колах. Ён з'яўляецца аўтарам каля дваццаці кніг прозы, казак, успамінаў і п'ес.

Пасля Кастровіч наш шлях ляжаў на Сянькоўшчыну, Ягнешчычы, Казловічы, Елку, Сынковічы. Што-што, а храм XV-XVI стагоддзяў у Сынковічах мы абмінуць ніяк не змаглі. Святое месца на Беларусі. Царква ў Сынковічах была зачынена. Мы пахадзілі вакол яе, сфатаграфаваліся на памяць. А пасля Валодзя дастаў з сумкі сваю кнігу "Сем цудаў Беларусі" і пытае:

– Ты мне можаш назваць сем цудаў Беларусі?

– Можна назваць і больш, чым сем,– кажу.

– Вядома, можна. А я вось напісаў і выдаў кніжку менавіта пра сем цудаў Беларусі. Адзін з гэтых цудаў – Сынковіцкая царква. Ты ведаеш, хто яе будаваў?– зноў пытаецца сябра.



Фота Віталя ГІЛЯ

*Сынковіцкая царква*

– Здаецца, князь Вітаўт,– адказваю.

– Уцякаючы ад Ягайлавых служак, князь Вітаўт знайшоў сховішча недалёка ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы пад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, пачаў перамагаць Ягайлу і ўрэшце стаў адзіным уладаром Вялікага княства Літоўскага. Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінуючай пагібелі, вялікі князь загадаў пабудаваць у вёсачцы каля Слоніма храм: у знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё. Невядомыя таленавітыя дойліды выканалі Вітаўтаву волю і паднялі да нябес Сынковіцкую царкву-крэпасць. Больш падрабязна ты прачытаеш пра ўсё ў гэтай маёй кніжцы,– сказаў Уладзімір Ягоўдзік. Ён дастаў ручку і пакінуў на кнізе "Сем цудаў Беларусі" мне свой аўтограф.



*Гіём Апалінэр. Малюнак Пабла Пікасо*

Мы доўга яшчэ сядзелі каля Сынковіцкага храма, разважаючы пра нашу багатую гісторыю і пра наш народ. А пасля надвячоркам вярнуліся ў Слонім.

Вандроўка з Уладзімірам Ягоўдзікам мне спадабалася. Які багаты і прыгожы наш край, а мы, жывучы побач, часам гэтага не заўважаем. Будзённасць і абыякавасць да ўсяго, губляюць у нашых сэрцах любоў да сваёй маленькай радзімы, а тым больш да такой, як наша Слонімская зямля.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## Наваселлі на Дзятлаўшчыне

**Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, у многіх вёсках Дзятлаўскага раёна вядзецца будаўніцтва жылля.**

У калгасе "Горка", напрыклад, узводзіцца чатыры дамы, у калгасах імя Заслонава – 10, "1 Мая" – 4 дамы. Пяць сем'яў справяць наваселлі ў калгасе "Новае жыццё", дзесяць – у калгасе "Беларусь", чатыры – у "Войневічах".

## У барацьбе за грошы

**Апошнім часам рабочыя ААТ "Мастоўдрэў", каб атрымаць заробак, з раніцы займаюць чаргу.**

А як толькі пачынаюць даваць грошы, людзі адразу штурмуюць касу. У жніўні націск жадаючых атрымаць грошы быў настолькі вялікі, што ў адной з касаў было выбіта шкло, а каб супакоіць натоўп, выклікалі нарад міліцыі.

**Антон МАКЕЙ**

## Бедны багатаму дапамагае

**У саўгасе "Мастоўскі" вымерзла шмат пасеваў збожжавых.**

На астатніх палетках ураджайнасць вельмі нізкая. Таму жаць няма чаго, і частка камбайнаў была накіравана ў калгас "Прагрэс" Зэльвенскага раёна. Акрамя заробку камбайнёрам, суседзі паабяцалі разлічыцца ... саломаю. Кіраўніцтва гаспадаркі мае намер скарыстаць салому для корму грамадскай жывёлы, а працаўнікі саўгаса спадзяваюцца, што тая салома будзе размеркавана паміж імі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ЗДАРЭННІ

## Крадуць усё

**За сем месяцаў бягучага года за дробныя крадзяжы Дзятлаўскім судом асуджана 120 чалавек.**

Як сведчыць статыстыка, крадуць у асноўным хлеб, бензін, муку і малако.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Паслізнулася і патанула

**Жыхарка вёскі Марозавічы Дзятлаўскага раёна пераходзіла мост праз рэчку Паніква.**

Жанчына паслізнулася і ўпала ў ваду. Выратаваць яе не змаглі.

**Міхась АКУЛКА**

## Адзін памёр

**У мінулую суботу, 12 жніўня, у раёне Пятралевіч быў выяўлены труп 35-гадовага слонімца.**

Людзі знайшлі яго ў канаве. Мусіць, мужчына па мастку пераходзіў роў і ўпаў у ваду. Па гэтаму факту праводзіцца праверка.

## ...Другога парэзалі

**Днямі ў Слонімскую бальніцу з нажавым раненнем грудзі быў дастаўлены малады мужчына з Брэсцкай вуліцы.**

Асоба, якая яго пакалечыла, устаноўлена. Ідзе следства.

**А.М.**

## Владислав Завальнюк — человек 2000 года

**Международное исследовательское отделение Американского биографического института (США) признало ксендза-магистра минского костела святых Симона и Елены, известного деятеля национального возрождения Владислава Завальнюка "Человеком 2000 года".**


*Владислав Завальнюк*

Это звание присуждено белорусскому ксендзу за существенный вклад в развитие общества. По мнению паствы, именно благодаря таким проповедникам храм становится местом, где человек может по-настоящему удовлетворить потребности духа и ума.

Деятельность ксендза Завальнюка — своеобразный вызов реалиям белорусской действительности, которая, как считает он сам, во многом напоминает "тюрьму, только что отворившую свои врата". В беседе с корреспондентом БелаПАН Владислав Завальнюк сказал, что такая ситуация возникла после падения "железного занавеса" и распада СССР: люди, воспитанные в обстановке бездушия и насилия, оказались неподготовленными к свободе и ответственности, и многие предпочли своеволие и безответственность. На пути разгула инстинктов, считает ксендз, должна встать нравственная и культурная традиция, в связи с чем необходимо возрождать в обществе христианское воспитание.

Сегодня Владислав Завальнюк вдохновлен реализацией проектов открытия в Минске католического университета, создания в пригороде белорусской столицы детского оздоровительного комплекса в виде сказочного средневекового города-крепости, а также завершением реставрации Красного костела.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## Соревнования по уборке урожая

**Совет Министров Беларуси утвердил условия республиканского соревнования по уборке урожая зерновых и зернобобовых культур, а также в сфере льноводства в 2000 году.**

Согласно условиям конкурса, лучшую по итогам уборки область наградят почетным дипломом и премией в размере 3 миллионов 500 тысяч рублей. Лидеры конкурса среди районов получат дипломы и премии в сумме 1 миллиона 200 тысяч рублей, а также легковые автомобили для служебного пользования — такие награды предусмотрены по одной на каждую область.

Для старших комбайнеров, занявших первое место в соревновании за наивысшие намолоты зерна, предусмотрены почетные дипломы и легковой автомобиль. Обладатель второго места получит холодильник, третьего — телевизор. Старшие комбайнеры, занявшие первое место повторно за 4 года, включая нынешний, награждаются дипломом, мотоциклом и денежной премией в размере 500 тысяч рублей.

Определены также условия соревнования для водителей, занятых на перевозке зерна. Обладатель первого места получит мотоцикл, второго и третьего — по телевизору.

Соревнования пройдут и среди хозяйств, занятых льноводством. Лидирующая в этой отрасли область получит почетный диплом и премию в размере 1 миллиона рублей. Предусмотрены также 6 дипломов с денежными премиями по 600 тысяч рублей для районов, занявших первые места. Двум коллективам в стране, удостоенным второго места, будут вручены премии по 500 тысяч рублей; трем коллективам, занявшим третьи места, — премии по 400 тысяч рублей.

Совет Министров обязал Министерство финансов выделить Минсельхозпроду на премирование и награждение победителей соревнований средства из республиканского фонда поддержки производителей сельхозпродукции, продовольствия и аграрной науки, а также обеспечить контроль за их целевым использованием.

Вручение наград победителям состоится в ходе республиканского фестиваля-ярмарки "Дажынкі", который пройдет 23 сентября в Шклове.

**БелаПАН**

## Выпускники прописываются, "у бабушки в деревне"

**Государственная комиссия по контролю над ходом подготовки и проведения вступительных экзаменов в государственных высших и средних специальных учебных заведениях в 2000 году выступает за сохранение в 2001 году шестибальной системы оценки знаний абитуриентов на вступительных экзаменах.**

Об этом сообщил председатель комиссии, вице-президент Национальной академии наук Республики Беларусь Игорь Волотовский. Напомним, что шестибальная система экспериментально введена с 2000 года. От применявшейся ранее четырехбальной системы (от 2 до 5 балов) она отличается тем, что экзаменаторы получили право ставить две промежуточные отметки — 3,5 и 4,5 бала, что, как считает Волотовский, позволяет решать многие спорные вопросы.

Одной из основных проблем, на которую, по мнению членов Госкомиссии, следует обратить внимание Министерству образования в будущем году, Волотовский назвал прием студентов по целевому набору. По его словам, в последние годы стала практиковаться "перепрописка" выпускников городских школ "к бабушке в деревню" для того, чтобы, получив целевое направление, на льготных условиях поступать в ВУЗ.

Вызывает обеспокоенность у Госкомиссии и большое количество абитуриентов, поступавших в вузы по дубликатам аттестатов, ссылаясь при этом на утерю оригиналов этих документов. Однако при разбирательстве выясняется, что большинство из них ничего не теряли, а просто одновременно пробуют сдавать экзамены в два вуза.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## Создается новое информационное агенство

**В ближайшее время в Беларуси может появиться новая информационная структура.**

Она объединит Белорусское телеграфное агентство (БелТА) и агентство "Интерфакс-Запад", которое представляет в Беларуси интересы российской информационной кампании "Интерфакс".

"Интерфакс-Сервис", как планируется, будет распространять свою информацию как "по вертикали" — в региональные средства массовой информации, так и "по горизонтали" — в республиканские масс-медиа, дипломатические представительства, крупные кампании, организации и так далее. "Интерфакс-Сервис", предположительно, будет либо полностью государственной структурой, либо доля государства в нем будет преобладать.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ**

## У белорусских воинов будет белорусский Устав

**Активисты общественного объединения "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) приступили к переводу с русского на белорусский язык уставов Вооруженных сил Беларуси.**

Тексты действующих в армии уставов внутренней, гарнизонной и караульной служб, а также дисциплинарного устава были предоставлены Министерством обороны. Сейчас заместитель председателя ТБМ, преподаватель кафедры белорусского языка и литературы Белорусского университета культуры Людмила Дицевич и заведующая кафедрой белорусского языка и литературы Белорусского технологического университета Ольга Кузьмич работают над переводом дисциплинарного устава. По словам Людмилы Дицевич, в этой работе примут участие ведущие лингвисты страны, в том числе профессора Иван Лепешев, Павел Стецко и авторы ранее изданных русско-белорусских воинских словарей, среди которых — Станислав Судник и Сергей Числов. Как отметила г-жа Дицевич, это необходимо для того, чтобы снять спорные вопросы при осуществлении перевода текстов воинских уставов, белорусская лексика которых весьма слабо разработана. Только при таком подходе, считает она, можно осуществить не калькирование, а добротный научный перевод уставов.

По мнению г-жи Дицевич, внедрение в жизнь армии около ста белорусских воинских терминов, которые отличаются от русских совершенно иным звучанием, может вызвать немало проблем. Однако филолог выразила надежду, что в перспективе белорусская воинская терминология займет достойное место в Вооруженных силах Беларуси, которые сегодня практически полностью русифицированы.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## Школьные учебники

**Из 107 учебных пособий для средней школы, запланированных к изданию в этом году, 99 уже вышли из печати; остальные будут выпущены до 20 августа.**

Об этом сообщил заместитель председателя Государственного комитета по печати Станислав Ничипорович на заседании "круглого стола", посвященного подготовке к новому учебному году. Среди новых учебных пособий Ничипорович отметил впервые изданный в Беларуси букварь для слепых детей и 22 выпуска художественной литературы из серии "Школьная библиотека".

Заместитель министра образования Геннадий Дылян сообщил на "круглом столе" о подготовке проекта нового дневника для школьников, который выдержан в национальном белорусском стиле. Переход к нему начнется в нынешнем учебном году: полиграфисты уже приступили к выпуску дневника, а предприятиям книжной торговли запрещена реализация подобной продукции российского производства.

Геннадий Дылян также подверг сомнению эффективность российских методик развивающего обучения. Кроме того, отметил он, учебники, соответствующие этим методикам, государство не может закупать для школьных библиотек за рубежом из-за непомерно высокой стоимости книг. Всего же, по словам Дыляна, Беларусь закупает в России примерно 250 наименований учебников (в основном для старшеклассников, по физике, химии, биологии и четырем иностранным языкам) из 1.200, составляющих весь ассортимент школьной книжной продукции.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## Линг поедет в США

**Бывший премьер-министр Беларуси Сергей Линг получил работу.**

Указом Александра Лукашенко Сергей Линг назначен постоянным представителем Республики Беларусь при Организации Объединенных Наций.

**Максим ТИТОВ**

## Завершился срок регистрации инициативных групп

**Завершился срок регистрации инициативных групп по сбору подписей для выдвижения кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Беларуси.**

Регистрация инициативных групп началась 3 августа и, в соответствии с Избирательным кодексом, завершилась за 65 дней до выборов. В 110 окружных избирательных комиссий поступили документы 550 инициативных групп по сбору подписей для выдвижения кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Беларуси. В среднем конкурс потенциальных кандидатов уже составил пять человек на один депутатский мандат.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## "МОМАНТ ІСЦІНЫ" ЗНОЎ АДКЛАДВАЕЦЦА

**Праца над фільмам "Момант ісціны", які ў мінулым годзе здымаўся таксама і ў Слоніме, працягваецца.**


Фота Віталя ГІЛЯ

"ГС" неаднаразова пісала пра лёс гэтага фільма. Спачатку меркавалася, што яго прэм'ера адбудзецца 9 траўня, пасля тэрміны пераносіліся на 22 чэрвеня і 3 ліпеня. Па апошніх звестках, агучванне, запіс музыкі і шумавое афармленне будзе закончана толькі да канца года. І гэта толькі ў лепшым выпадку. Нягледзячы на тое, што беларуска-расійская каманда гукарэжысёраў працуе ў дзве змены...

Тым часам, у чарговы раз можа паўстаць праблема недахопу грошай. Мільён даляраў, які выдаткаваў на здымкі фільма Аляксандр Лукашэнка, ужо скончыўся. Расійскі бізнесмен-дэпутат Семага, відаць, ужо шкадуе, што ўклаў свае грошы ў гэты праект. А тут яшчэ не сціхае канфлікт паміж рэжысёрам Пташуком і сцэнарыстам Уладзімірам Багамолавым, які лічыць, што "дух фільма не адпавядае духу кнігі", а значыць рэжысёр павінен памяняць назву стужкі. Багамолаў пагражае судом.

Тым часам, "дзякуючы" фільму Міхаіла Пташука, больш двух гадоў у павільёнах кінастудыі "Беларусьфільм" не зняты ніводны мастацкі фільм...

**Алег ТАЧОНЫ**

Газета Слонімская
17 — 23 жніўня, 2000г. № 34 (167)

# ПРИ ГОЛОСОВАНИИ ДОСРОЧНО И НА ДОМУ – ВОЗМОЖНЫ ФАЛЬСИФИКАЦИИ

**До весны 1999 года институт досрочного голосования при избрании депутатов не применялся. О нём говорилось — и то вскользь — в принятом ещё в 1991 году Законе о референдуме. В период относительно мирного демократического развития институт досрочного голосования не являлся средством обеспечения нужных результатов на выборах. Но, как говорят, "если ружьё висит на стене в первом акте, то в последнем оно обязательно выстрелит". Именно так и произошло в Беларуси.**

Впервые в полной мере власть опробовала институт досрочного голосования на ноябрьском референдуме в 1996 году. Необходимость организации такого голосования специально оговаривалась в указе Лукашенко "О мероприятиях по обеспечению подготовки и проведения республиканского референдума" от 28 октября 1996 года. Поскольку результат превзошёл все ожидания, было решено включить его и в Закон о выборах депутатов местных Советов от 23 декабря 1998 года. В результате проталкивания выгодной для властей формы голосования оказалось, например, что на состоявшихся весной 1999 года выборах депутатов местных Советов 24% (!) избирателей Гродненской области "не смогли" находиться в день проведения выборов по месту своего жительства и проголосовали досрочно. Надо полагать, что это не рекорд, и на предстоящих парламентских выборах наиболее "сообразительные" представители исполнительной вертикали вместе с подконтрольными им избирательными комиссиями вполне могут его превзойти. Ведь для них важен конечный результат!

Наряду с порядком формирования избирательных комиссий досрочное голосование является своеобразной "священной коровой", и нынешние белорусские законодатели ни за какие коврижки не согласились поменять его на более прогрессивную, применявшуюся даже в советские времена, практику голосования по открепительным удостоверениям. Исполнительная власть прекрасно понимает, что организовать процесс наблюдения за законностью при досрочном голосовании и обеспечить сохранность избирательных бюллетеней значительно труднее, чем в день проведения выборов. Поэтому не случайно статья 53 Избирательного кодекса, регулирующая проведение досрочного голосования, составлена таким образом, чтобы максимальное количество избирателей могло принять участие в подобном голосовании. На протяжении 5 дней до дня основного голосования любой избиратель с 10 до 14 часов и с 16 до 19 часов может прийти на избирательный участок и проголосовать. Официального подтверждения причин невозможности прийти в помещение для голосования в день выборов не требуется. Такой же либерализм законодатель проявляет и в отношении избирателей, которые в день выборов хотят проголосовать на дому: им также не требуется подтверждения причин невозможности прибыть на избирательный участок (ст. 54 Избирательного кодекса). Важно отметить, что в упомянутых статьях говорится, что досрочное голосование и голосование на дому должно проводиться с соблюдением требований Избирательного кодекса. Это даёт хоть какой-то шанс воспрепятствовать возможным фальсификациям со стороны избирательных комиссий.

Говорят, что пессимист — это информированный оптимист. Зная практику проведения выборов в местные Советы и референдума 1996 года и важность предстоящих парламентских выборов, можно с уверенностью сказать, что при существующем порядке формирования избирательных комиссий, полностью подконтрольном исполнительной власти, даже самое тщательное наблюдение за ходом голосования на избирательном участке в период досрочного голосования не является стопроцентной гарантией от подмены содержимого избирательных урн в вечернее или ночное время суток.

На предстоящих выборах бороться против нарушения закона при голосовании на дому станет немного легче, так как исполнительная власть согласилась с предложением участников общественно-политического диалога ограничить число переносных избирательных ящиков на избирательном участке до трёх. Кроме того, избиратель вправе обратиться с просьбой об организации голосования по месту своего нахождения не позднее чем за два часа до истечения времени для голосования. Если учесть, что голосование прекращается в 20.00, то в некоторых случаях это обстоятельство может сыграть немаловажную роль.

Впервые, в отличие от выборов прошлых лет, права и обязанности лиц, имеющих право осуществлять наблюдение за ходом избирательного процесса, изложены в тексте самого закона, а не подзаконного акта, принятого Центризбиркомом. Так, в статье 13 Избирательного кодекса прямо говорится о том, что наблюдатель вправе присутствовать при досрочном голосовании и голосовании по месту нахождения граждан.

Закон (ст. 49 Избирательного кодекса) предоставляет общественному наблюдателю право обращаться с предложениями и замечаниями не только к председателю участковой комиссии и её членам, но и в вышестоящую избирательную комиссию, а также в прокуратуру и другие государственные органы власти, которые обязаны рассмотреть поступившие к ним документы и в трехдневный срок дать ответ, а в день выборов — ответить немедленно. Если факты требуют проверки, то решения по ним должны приниматься не позднее чем в десятидневный срок. Все документы наблюдатель должен составлять как минимум в двух экземплярах: один экземпляр следует вручать адресату, второй — оставлять у себя. Поданные общественным наблюдателем документы должны быть приобщены избирательной комиссией к протоколу о результатах голосования (ст.55 Избирательного кодекса).

При выявлении нарушения избирательного законодательства общественный наблюдатель должен в вежливой форме довести обнаруженный факт до сведения председателя, заместителя председателя избирательной комиссии и потребовать его устранения. Если обращение не возымеет действия, необходимо составить акт (заявление, протокол) о нарушении избирательного законодательства. Если нарушение носит существенный характер и может повлиять на результаты выборов на данном избирательном участке, наблюдатель должен обратиться в вышестоящую избирательную комиссию и в прокуратуру с соответствующим заявлением. При составлении акта (заявления, протокола) желательно, чтобы под ним подписались также свидетели данного нарушения. Если таковых не окажется, то он может быть составлен и подписан только самим наблюдателем.

В случае создания препятствий наблюдателю в выполнении его обязанностей он должен составить акт о том, что на данном избирательном участке могут иметь место фальсификации и подтасовки, так как избирательная комиссия в нарушение закона (ст. 13 Избирательного кодекса) препятствует его работе.

Наиболее существенным нарушением избирательного законодательства при досрочном голосовании и голосовании на дому может быть подмена содержимого избирательных урн. Воспрепятствовать этому — особенно при досрочном голосовании — трудно, но возможно. Что может сделать в этой ситуации общественный наблюдатель? В первую очередь, он должен узнать, сколько избирателей проголосовало досрочно. Эти сведения можно получить в момент окончания времени, отведенного на досрочное голосование, а также в день проведения выборов, сразу же после опломбирования избирательных урн, т.е. перед началом голосования на избирательном участке. Полученные данные необходимо сравнить с количеством бюллетеней, которое находится в урнах, использовавшихся для досрочного голосования. Это можно сделать на законном основании, так как п.2 ст.55 Избирательного кодекса не предусматривает использования избирательных урн, применявшихся при досрочном голосовании, в день проведения выборов на избирательном участке, а количество бюллетеней, находящееся в них, должно подсчитываться после окончания голосования в первую очередь и отдельно от содержимого других избирательных урн. Если количество избирателей, проголосовавших досрочно, и количество бюллетеней в избирательных урнах для досрочного голосования значительно отличаются друг от друга, это может свидетельствовать о возможных фальсификациях, и в этом случае обязательно надо составить соответствующий протокол. Те же действия наблюдатель должен выполнить и при голосовании на дому.

**Михаил ПЛИСКО,**
руководитель группы экспертов Консультативного совета оппозиционных политических партий



*Анатолий Малофеев, спикер Палаты представителей, и Владимир Коноплев, вице-спикер Палаты представителей, общаются.*

***

*Уж выборы не за горами*
*В любимый Верховный Совет,*
*И вновь замаячил пред нами*
*Надежды немеркнущий свет.*
*Изменится все в одночасье,*
*Народа мечты все свершатся,*
*Везде воцарится согласье,*
*Все будут вокруг улыбаться.*
*Всем хватит и масла,*
*и сыра,*
*Обувь дешевая станет,*
*Всякий получит квартиру,*
*Правительство нас*
*не обманет.*
*Счастливей счастливых*
*мы будем,*
*Сразу наступит расцвет...*
*Голосуйте, добрые люди,*
*За наш за Верховный Совет!*

*Николай ГРИГОРЬЕВ*

## Пошли люди в депутаты

Днями зарегистрирована инициативная группа по сбору подписей в поддержку выдвижения кандидатом в депутаты Палаты представителей Национального собрания лидера Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Николая Статкевича. Группа зарегистрирована по Калиновскому округу № 107 в Минске.

В беседе с корреспондентом БелаПАН лидер БСДП (НГ) сказал, что окончательное решение об участии в выборах он примет в сентябре. Однако из предвыборной гонки он может быть выведен и раньше – 15 августа в Верховном суде Республики Беларусь будет рассмотрена кассационная жалоба на приговор минского городского суда в отношении Статкевича и Щукина. "Если Верховный суд оставит приговор в силе, я получу судимость и потеряю возможность быть выдвинутым в кандидаты", – сказал Статкевич. Однако накануне он заявил ходатайство о переносе рассмотрения жалобы, так как его адвокат находится в отпуске за пределами Минска.

К участию в выборах Николая Статкевича, по его словам, подтолкнула "инициатива снизу". К нему поступало множество обращений с просьбой участвовать в выборах. "У меня, у Валерия Щукина, у Михаила Чигиря есть моральное право участвовать в этих выборах. Я не думаю, что меня кто-то может упрекнуть в этом – особенно те люди, кто несанкционированные акции любит наблюдать по телевизору", – сказал председатель БСДП (НГ). В какой-то степени депутатский мандат будет защитой от приговора, вынесенного Минским городским судом: 2 года лишения свободы с отсрочкой исполнения на 2 года.

Статкевич подчеркнул, что возглавляемая им партия не выдвигала кандидатов. Она лишь не запрещала отдельным членам участвовать в выборах. По предварительным подсчетам, в кампании примет участие около 30 членов БСДП (НГ), в том числе заместители председателя партии Владимир Арестович и Нина Стужинская, известный правозащитник Олег Волчек, многие руководители региональных организаций.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

